


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (1090) ГОД XXII БЕЛАСТОК 16 СТУДЗЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.





Куды мы так спяшаемся упарта?
Ні блізкіх, ні сябе не беражэм
І забываем — чым далей ад старту,
Тым з кожным днём да фінішу бліжэй,

Што больш ужо не вернемся ніколі
Насустрач навальніцам і вясне,
Калі заные сэрца горкім болем
І на павеках не растане снег.

**Сяргей Грахоўскі**



*Фота Я. Цялушэцкага.*

# КАРЭСПАНДЭНТ ГОДА

Закончыўся стары — 1976 год. Закончыўся і чарговы (гадавы) этап нашага пастаяннага конкурсу „Карэспандэнт года". Ужо ўсе працуем на новы год. Які для каго ён будзе? Не ведаем. Але ведаем і сёння публічна абвяшчаем карэспандэнта года 1976:

**МІКАЛАЙ НЯПЛОХА,**

выкладчык сярэдніх сельскагаспадарчых школ у Бельску.

Першы карэспандэнт года з'яўляецца адным з найбольш метадычных карэспандэнтаў „Нівы". А метад яго — гэта сістэматычнасць і пастаянства. Такія рысы чалавечага характару прыносяць плён заўсёды і кожнаму. І асабліва ў высокім прыгожым сяброўскім спаборніцтве, якім з'яўляецца ніваўскі конкурс на найбольш плённага карэспандэнта года.

Як нашым паважаным карэспандэнтам вядома, у нашым конкурсе адзін просты прынцып: колькасць апублікаваных за год матэрыялаў. Гэта прынцып матэматычны, бяздыскусійны, і таму стаў ён асновай конкурсу.

Карэспандэнт — гэта летапісец свайго месца і свайго часу. А каб не паўтараць старых акрэсленняў, хоць і прыгожых, і каб усё больш уводзіць у нашу мову і ў нашы суадносіны новыя словы і новыя пачуцці, скажу сёння, што карэспандэнт — гэта люстра, у якім ён сілай свайго інтэлекту, сваёй волі, сваёй творчай здольнасці адбівае плывучае вакол яго жыццё, з усімі яго прыгажосцямі і... непрыгажосцямі. У гэтым зборным люстры некалькіх дзесяткаў нашых карэспандэнтаў пастаянна паўстае цікавы фільм, выражаны словам — найбольшым дарам чалавека, словам свежым, непасрэдным, неспакойным; радасным і гнеўным; удзячным і крытычным; сур'ёзным і гумарыстычным. Усё гэта добра і за ўсё гэта дзякуй вам, дарагія карэспандэнты — наш баявы штаб людзей адважных і працавітых, верных і надзейных!

А цяпер, пасля гэтай кароткай рэфлексіі, якой па традыцыі хацелася падзяліцца з выпадку заканчэння года, вернемся да іншых карэспандэнтаў.

Другім карэспандэнтам года стаў Мікалай Панфілюк з Дубіч Царкоўных. Вядомы гэта чалавек. Быў першым, быў і трэцім карэспандэнтам, а цяпер ён другі. Але заўсёды сярод першых.

Трэці карэспандэнт года — Віт з Сакольшчыны. Гэты карэспандэнт таксама застаецца заўсёды сярод першых, і калегі-карэспандэнты ведаюць яго.

А вось поўны спісак нашага авангарду — дваццаці першых за 1976 год.

| | | |
|---|---|---|
| **Мікалай Няплоха** | **— 65** | **публік.** |
| **Мікалай Панфілюк** | **— 52** | „ |
| **Віт** | **— 45** | „ |
| **Уладзімір Сідарук** | **— 44** | „ |
| **Пётр Байко** | **— 37** | „ |
| **Аляксандр Закройшчык** | **— 37** | „ |
| **Эдмунд Вайсковіч** | **— 36** | „ |
| **Іван Кірызюк** | **— 28** | „ |
| **Віктар Бура** | **— 25** | „ |
| **Мікалай Лук'янюк** | **— 25** | „ |
| **В. С.** | **— 15** | „ |
| **Валянцін Анапюк** | **— 13** | „ |
| **Джэны А.** | **— 11** | „ |
| **Сядзем** | **— 11** | „ |
| **Я. Бандарук** | **— 10** | „ |
| **Ніяк** | **— 10** | „ |
| **Марко** | **— 8** | „ |
| **М. Матвеюк** | **— 8** | „ |
| **Га-Та** | **— 7** | „ |
| **М. Л.** | **— 7** | „ |

**Разам 494 публікацыі**

У 1976 годзе пісала для „Нівы" 67 асоб. Разам апублікавалі яны 570 матэрыялаў. Але наш авангард — тыя дваццаць першых — апублікавалі 494 публікацыі, што складае 85 працэнтаў усіх карэспандэнцкіх публікацый.

У нашым падліку мы не ўзялі пад увагу матэрыялаў вершаваных, друкаваных у „Парнасіку", а яны вельмі часта бываюць з глыбокім грамадскім зместам. Гэта сатыра, крытыка і здаровы гумар. Тут асабліва выдзяляецца Дзядзька Квас і М. Лук'янюк.

У многіх адносінах публікацыі карэспандэнтаў за 1976 год лепшыя. Яны больш прадуманыя, больш праверанныя, лепш апрацаваныя, напісаныя цікавейшымі словамі. На ўсё гэта маем доказы. Першы: амаль не было галасоў ці закідаў, якія падважалі б тое, што напісаў карэспандэнт. І наадварот — было больш галасоў тыпу: правільна напісаў, добра напісаў. Другі: значна больш было адказаў на крытыку, якія пацвярджалі справядлівасць нашай крытыкі.

І так вось дайшлі мы да нашай пастаяннай рубрыкі, якая публікуецца на сёмай старонцы і якая вырасла і развіваецца вельмі дынамічна найбольш у выніку крытычных выступленняў карэспандэнтаў.

У 1976 годзе мы апублікавалі 89 ад-

(Працяг на стар. 2)




У Крынках адбываюцца вялікія пераўтварэнні. Гэтае яшчэ некалькі год таму назад соннае мястэчка, што ў памяці зводльна перагортвала змуршэлыя лісты ўспамінаў пра колішнюю сваю гарадскую вялікасць, сёння аж прысела, здаецца, ад неўгамоннага грукату грузавікоў, трактароў, сельскагаспадарчых самалётаў. І не дзіва: на месцы ўдзірванелых аблогаў, што колькі год страшылі людзей сваімі аграмаднымі абшарамі, цяпер паўстае адзін з самых вялікіх ПГР-аў на Беласточчыне. У паскораным тэмпе растуць пры дарогах крушні сцягнутага з палёў камення, прыбывае сучасная тэхніка, разрастаюцца розныя сельскагаспадарчыя аб'екты, уздымаюцца шматпавярховыя карпусы жылога раёна, пачынаюць прыбываць свежыя людзі...

І тут узнікае пытанне: „А ці гэтаму вялікаму зруху ў грамадскім жыцці спадарожнічаюць адпаведныя перамены і ў культурнай дзейнасці мястэчка?"

Што ж, калі б вы, узімку ці ўлетку, не трапілі ў крынкаўскі ГОК, а патутэйшаму ў „клуб", тут вас заўсёды сустрэне атмасфера карпатлівай культурна-асветнай работы. Рэдка які тыдзень, а нават чарговых некалькі дзён праходзіць тут без якога-небудзь мерапрыемства. Сярод іх важкае месца займаюць сустрэчы з сакратаром гміннага камітэта ПАРП, начальнікам гміны і іншымі мясцовымі дзеячамі на розныя тэмы, звязаныя з гаспадаркай і жыццём гміны, між іншым, і на такую як „Культура ў нашай гміне", а віктарына-згадванка „Што ведаеш пра сваю гміну" пашырае веды і ўмацоўвае пашану да родных мясцін. Паспяхова праходзяць алімпіяды па сельскагаспадарчых ведах. Не абыходзіцца тут і без вельмі карысных сустрэч з мясцовымі лекарамі, якія разам з пашырэннем медыцынскай асветы даюць прысутным канкрэтныя парады па ахове здароўя. Удала праходзяць таксама дні кнігі пад лозунгам „Чалавек-свет-палітыка", гмінная бібліятэка арганізоўвае тут выстаўкі сваіх свежых набыткаў, а клуб „Руху" — краязнаўчых паштовак. Не забыты і прадстаўнікі старэйшага пакалення: пры шклянцы чаю сустрэлася іх каля 60 асоб. Тутэйшая моладзь не замыкаецца ў сваім асяроддзі, і танцавальныя вечарыны, кулікі ды экскурсіі арганізуе разам з дзяўчатамі і хлопцамі з навакольных сёлаў Гураны, Нятупа, Крушыняны, а калі ўлетку трапіў у Крынкі вандроўны лагер з Ольштына, маладыя крынчане правялі з ім цудоўную вечарыну. З канца ліпеня тыдзень у тыдзень адбываецца таксама дыскатэка, на якую прыходзіць сама меней 70-80 асоб моладзі. Гэта толькі малая частка тых мерапрыемстваў, якія адбываюцца ў сценах крынкаўскага ГОК-у. Можна было б падумаць, што ў ім працуе цэлы штаб культурна-асветных работнікаў.

На самай жа справе арганізоўваюць і праводзяць усю гэтую культурна-асветную дзейнасць дзве асобы: ды-

(Працяг на стар. 4)



*„Вечарынка ў выкананні арэшкаўскіх самадзейніц.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

# „Белавежцы“ ў настаўнікаў



*Чытае пераклады Ян Леанчук.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

**16** снежня мінулага года члены літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа“ выступілі на аўтарскай сустрэчы ў настаўніцкім клубе „Бакалаўр“ у Беластоку. Была гэта першая сустрэча „белавежцаў“ з настаўнікамі Беластока. Мела яна ўрачысты характар і праходзіла ў сардэчнай атмасферы. Арганізатары прыдумалі нават пры нагодзе свайго роду сватанне, як гэта раней сваталі хлопца дзяўчыне. Сватаў „белавежцаў“ навуковы работнік філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку Ян Леанчук. У камеральнай атмасферы, ва ўтульнай зале, пры свечках чыталі свае мастацкія творы Міхась Шаховіч, Юрка Геніюш, Ірэна Баравік, Васіль Петручук і Янка Цялушэцкі — усе з Беластока. Пасля з перакладамі выбраных твораў спамянутых аўтараў на польскую мову выступіў Ян Леанчук. Творчасць „белавежцаў“ была цёпла ўспрынята. Слухачы ставілі шмат пытанняў у час завяршальнай літаратурнай дыскусіі. Былі прапановы, каб у гэтым годзе ў клубе настаўнікаў арганізаваць сустрэчы з паасобнымі членамі літаб'яднання „Белавежа“ дзеля лепшага азнаямлення з іх творчасцю і літаратурнымі намерамі. Каб наладзіць супрацоўніцтва паміж гэтымі творчымі асяроддзямі ў галіне ўзаемных аўтарскіх сустрэч і перакладаў, а таксама ў выдавецкіх справах.

(ця)

# БАГАТЫ ВЫБАР БЕЛАРУСКІХ КНІГ

У кнігарні ў Саколцы, вул. Беластоцкая 8/10, можна набыць: **Арлянятам,** 1967, анталогія беларускай дзіцячай літаратуры ў двух тамах, том I — паэзія, стар. 490, цана 11 зл. 60 гр., том II — празаічныя творы, стар. 436, цана 9 зл. 30 гр.; **Багдановіч Максім,** Збор твораў у двух тамах, 1968, абодва тамы стар. 1128, цана 28 зл. 10 гр.; **Багдановіч Максім,** Маладзік, 1968, стар. 292, цана 7 зл. 50 гр. **Васілевіч Алена,** Новы свет, 1970, стар. 136, цана 3 зл. 30 гр. — аповесць. **Вітка Васіль,** Беларуская калыханка, 1971, стар. 40, цана 1 зл. 10 гр. — драматызаваная паэма. **Вольскі Віталь,** Кніга падарожжаў, 1971, стар. 536, цана 10 зл. 50 гр. — кніга краязнаўчых нарысаў пра 1) падарожжа па краіне беларусаў і 2) па паўночнай Афрыцы. **Дубоўка Уладзімір,** Казкі, 1968, стар. 336, цана 5 зл. 70 гр. **Звяровіч Т. І., Гелер М. Л.,** Літаратурныя віктарыны, 1967, стар. 228, цана 3 зл. 10 гр. **З рога ўсяго многа,** 1968, стар. 304, цана 11 зл. 50 гр. — выбар самых цікавых беларускіх народных казак. **Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі,** 1971, стар. 496, цана 16 зл. 40 гр. — адзін з чарговых тамоў цыкла „Беларуская народная творчасць“. **Крапіва Кандрат,** Пучок жыгучкі, 1973, стар. 80, цана 4 зл. 40 гр. — самыя папулярныя байкі і сатырычныя вершы пісьменніка. **Лобан М. П., Суднік М. Р.,** Арфаграфічны слоўнік, 1971, стар. 304, цана 3 зл. 60 гр. **Лойка Алег,** Сустрэчы з днём сённяшнім, 1968, стар. 172, цана 3 зл. 90 гр. — зборнік літаратуразнаўчых артыкулаў. **Лынькоў Міхась,** Міколка-паравоз, 1971, стар. 184, цана 7 зл. 60 гр. — прыгодніцкая аповесць. **Навуменка Іван,** Падарожжа ў юнацтва, 1972, стар. 434, цана 9 зл. 60 гр. — выбар апавяданняў. **П'есы для школьнай самадзейнасці,** 1968, стар. 200, цана 3 зл. 10 гр. **Чарадзейныя казкі,** 1973, стар. 648, цана 22 зл. 10 гр. **Шыцік Уладзімір,** Зорны камень, 1967, стар. 212, цана 2 зл. 20 гр. — зборнік навукова-фантастычных апавяданняў. **Якімовіч Алесь,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1967, том I — апавяданні, казкі, стар. 468, цана 10 зл., том II — аповесці, кінасцэнарый, стар. 464, цана 9 зл. 70 гр.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:
„Dom Książki”, 16-100, Sokółka, ul. Białostocka 8/10.

(мг)

# Сведак гісторыі Белавежы

Найстарэйшым помнікам старадаўнасці Белавежы з'яўляецца абеліск, пастаўлены на ўспамін аб паляванні ў пушчы караля Аўгуста III Саса, якое адбылося 27 верасня 1752 г.

Паляванне гэта было даволі арыгінальнае (адначасова і смешнае), калі глядзець на яго з пазіцыі часу. Перад прыездам караля лясная адміністрацыя вылоўлівала ў сеткі ўсялякую пушчанскую звярыну і ўпускала яе ў агароджу паверхняй каля 100 дзесяцін. Ад агароджы ішоў калідор, ля якога стаяла альтанка. Паляванне праходзіла наступным чынам. Лясныя служачыя наганялі ў калідор у невялікіх прамежках часу злоўленых звяроў, а кароль з жонкай стралялі ў іх, седзячы выгодна ў альтанцы. За кожным трапным выстралам раздаваўся гук фанфар. Прыглядаліся да гэтага крывавага відовішча высокія саноўнікі, прыдворныя і служачыя, ды ім страляць не дазвалялася. Цікавым фактам з'яўляецца тое, што жонка Аўгуста падчас палявання чытала кніжку і толькі, калі паяўляўся звер, працягвала руку за стрэльбай. Разам забіла 20 зуброў. Пасля заканчэння палявання і звязанай з гэтым цырымоніяй усю злоўленую звярыну, г.зн. 42 зубры, 13 лосяў і 2 серны, раздзялілі паміж мужыкамі.

Колькасць злоўленай звярыны, яе вага, а таксама — хто з вышэйшых асоб прымаў удзел у паляванні — пададзена на абеліску, зробленым з пясчаніка. Надпісы выдаўблены на польскай і нямецкай мовах. І так, апрача караля Аўгуста, яго жонкі і дзяцей Ксаверыя і Кароля, палявалі ў Белавежы ў 1752 г. гетман вялікі каронны Браніцкі, першы міністр Бруль, чэснік каронны Веляпольскі, найвышэйшы канюшы граф Бруль, генерал кароннай пошты Біберштэйн, прыдворны маршал Шонберг і іншыя (прыводзіцца яшчэ 29 прозвішчаў).

Абеліск быў пастаўлены пасярэдзіне сяла, на правым беразе ракі Нараўкі. Быў звыш 6 локцяў вышыні. Стаяў на невялікім зямным насыпе, потым абгарадзілі яго драўляным парканікам. Парканік быў зняты, калі збудавалі на ўзгорку за абеліскам палац для цара Аляксандра III у гадах 1889-1893 (да моманту збудавання палаца стаяў на гэтым месцы паляўнічы дом, збудаваны Аўгустам III, а пашыраны Станіславам Аўгустам Панятоўскім — знішчаны ў пачатку XIX стаг.) а наваколі яго зрабілі парк. Ад таго моманту абеліск вызначаў мяжу таго ж парка ад паўднёвага боку. З левага берага ракі да абеліска можна было дайсці па гаці, якая вяла пачаткова праз падмоклую даліну, а потым праз ставы, зробленыя на месцы той жа даліны ў час будовы палаца. Абеліск стаяў больш-менш там, дзе гаць спалучалася з паўночным берагам ставаў, крыху высунуты на гаць.

У жніўні 1915 г. на тэрыторыю Белавежскай пушчы прыходзяць немцы. Рускія, уцякаючыя з Белавежы, забіраюць у Расію і абеліск. У некалькі гадоў пасля заканчэння I сусветнай вайны абеліск дарогай рэвіндыкацыі трапляе ў Варшаву, ды расколаты на дзве часткі. У 1938 г. прывозяць яго ў Белавежу і ўстаўляюць сярод гаці, дзе стаіць ён па сённяшні дзень на невялічкім пастуменце.

**П. Байко**
Фота аўтара



*Абеліск, увекавечваючы паляванне ў Белавежы ў 1752 г. Аўгуста III Саса.*




## КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Даўным-даўно, у адной невялічкай вёсцы, жыла маладая прыгожая дзяўчына. А суседам яе быў прыстойны чарнавокі хлопец. І закахаліся яны. Ох! Што гэта было за каханне... А калі ўжо настане ночка, сядзяць пад чаромхай і шчабечуць аж да раніцы. Пад восень у войска Іванку забралі. А калісьці не такое было войска. На гадоў дваццаць пяць трэба было развітацца. Засталася Марылька адна, цяжкім сумам спавітая. Год прайшоў, другі, пяты, а дзяўчына забыць каханага не можа. Начамі не спіць. Хаця б здалёк на яго глянуць. А за вёскай пад лесам варожка жыла. Узяла Марылька дзве капы яек і пайшла да яе пра сваё гора расказаць. Пашаптала варожка нейкія закляцці, папаліла зелля, паглядзела ў квартачку з крынічнай вадой і ўздыхнула цяжка — не хутка ён прыдзе, дочанька, не хутка... Але калі так моцна хочаш убачыць яго, дапамагу я табе. Паслухай! Калі пачне набліжацца поўнач, вазьмі венік і замяці хату. Сабранае смецце высып за вугал і стань на яго тварам на захад ды крыкні — гу-гу-гу я цябе жду. Толькі памятай, калі ўбачыш, то не адзывайся да яго, а паглядзі і ўцякай у хату.

Як было сказана, так і зрабіла Марылька. Толькі закончыла гаварыць словы закляцця і прызыву, аж тупат коней чуваць. Не прайшло і хвіліны, расчынілася брама і пад ганак тройка вараных, запрэжаных у іскрыстую, як неба начное, карэту, і заехала. А ў дзвярах каханы ў афіцэрскай форме стаіць і, зняўшы шапку, з левай рукой пры грудзях да самых ног кланяецца.

— Сядай, каханая, у палац свой павязу. Толькі хуценька.

Расплылася цеплыня па маладым дзявочым целе, адурманіла галаву маладую, і ўскочыла Марылька, на перасцярогу варожкі рукой махнуўшы, проста на шыю каханага. Рванулі коні, толькі зямля з-пад капыт паляцела, і паімчалася карэта роўненька-роўненька, быццам бы паплыла. А дзяўчына, залітая радасцю, так і туліцца да свайго каханага.

— Які ты багаты цяпер. Шчаслівыя мы будзем. Але глядзіць на яго, а ён дзіўны нейкі зрабіўся. Замест афіцэрскай формы фрак чорны на ім паявіўся. На галаве цыліндрык сядзіць, з-пад якога вочы касыя блішчаць. А твар нейкі прадаўгаваты, вострай бародкай закончаны. Успомніла дзяўчына перасцярогу варожкі і спалохалася. Страх налящеў. А карэта ўсё імчыцца ды імчыцца нейкай гушчарэвінай дзіўнай. Сядзіць дзяўчына, сэрца не чуючы, але не падае віду, што спалохалася. Але ні дай, ні вазьмі расплылася карэта, так як бы і не было яе. І апынулася Марылька са сваім „каханым“ сярод паляны нейкай незнаёмай.

— Лезь, — кажа ён дзяўчыне.

Глянула яна, а тут нары перад ёю. Здагадалася Марылька, што гэта не інакш як сам чорт перад ёю. Затраслася, як асіна, і давай выкручвацца.

— Пачакай хвілінку, панчоха абсунулася.

І так адцягвала, пакуль аж пеўні праспявалі. Расплыўся яе спадарожнік, і давай Марылька ўцякаць. А лес нейкі чужы, незнаёмы. Дарогі знайсці не можа. У якім баку хата — не ведае. І блудзіць Марылька па лесе. Нават цяпер, калі ўслухацца ў лясную цішыню, можна адгалоскі тупату ног і ўздохаў пачуць.

Так то ўжо ёсць, міленькія, калі забудзешся, што правілам, а што адхіленнем. А паслухала б Марылька добрай варожкі...

**Бізун**

Польская беларусістыка

# Габілітацыя др Э. Смулковай

„Пытанні націску ў беларускай мове“ — такая тэма габілітацыйнай дысертацыі др Эльжбеты Смулковай, паспяховая абарона якой адбылася ў кастрычніку 1976 г. у Варшаўскім універсітэце. Дысертацыя з'яўляецца вынікам шматгадовых даследаванняў, якія праводзіліся Э. Смулковай на тэрыторыі Беларускай ССР і Беласточчыны і абапіраецца на аналізе дыялектнага матэрыялу ў супастаўленні з беларускай літаратурнай мовай. Атрымала яна высокую ацэнку вядомых польскіх славістаў — праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай з Варшаўскага універсітэта, праф. В. Курашкевіча з Пазнанскага універсітэта, праф. З. Тапалінскай з Польскай акадэміі навук і дацэнта Варшаўскага універсітэта др А. Барташэвіча.



*Др габ. Эльжбета Смулкова.*

Навуковае дасягненне др Э. Смулковай — першае ў гісторыі польскай беларусістыкі. З'яўляецца яно сведчаннем развіцця гэтай маладой навуковай дысцыпліны, у прыватнасці — лінгвістыкі, а таксама росту творчага патэнцыялу Э. Смулковай — навуковага работніка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта ад першага года яе існавання.

Аб гэтым пераканаўча сведчаць вынікі дыдактычнай і навукова-даследчай работы др Э. Смулковай. З'яўляецца яна аўтарам двухтомнай манаграфіі, прысвечанай вывучэнню сельскагаспадарчай лексікі ў гаворках Беласточчыны, а таксама звыш трыццаці артыкулаў і распрацовак, якія датычаць разнастайных пытанняў беларускай лінгвістыкі. Сярод іх пачэснае месца займаюць праблемы вывучэння гаворак беларускамоўных абшараў Беласточчыны.

Цікава падкрэсліць, што мовазнаўчыя працы Эльжбеты Смулковай друкаваліся не толькі ў польскіх акадэмічных зборніках і спецыялістычных часопісах, але спаткаліся таксама з зацікаўленнем выдавецтваў Беларусі, Масквы, Чэхаславакіі, а нават амерыканскага універсітэта Мічыген. Чытачоў „Нівы“, несумненна, зацікавіць і тое, што др Э. Смулкова з'яўляецца навуковым сакратаром мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства і членам яго праўлення.

**Ю. Туронак**

# НА ГАГАТУХУ ПАСЛЯ ВЯЧЭРЫ

ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Марыя Базылюк з Клейнікаў.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

Найбольшая колькасць варожбаў звязана была з пераднавагоднім вечарам, які называюць багатым або гагатухай. Першае, што трывожыла дзяўчыну, гэта лёс, які яе чакае, і тое, як будзе выглядаць яе жыццё. Каб прыадкрыць гэтую тайну, бралі вялікую міску і клалі навокал: дзяркач (венік з бярозавых галін), грошы, зямлю, каралі і пярсцёнак. На ваду варожачая дзяўчына пускала вылітую з воску качачку. Да чаго тая падплыве, тое і чакае ў жыцці. Калі да грошай — багацце, калі да зямлі — смерць, да дзеркача — цяжкая праца, да караляў — слёзы, да пярсцёнка — замужжаства. Цікава было таксама, за каго дзяўчына выйдзе і ці ўвогуле выйдзе. У сувязі з гэтым дзяўчаты пасля вячэры беглі пад чыё-небудзь акно і слухалі. Калі ў хаце пачулася „ідзі“, гэта азначала, што хутка павыходзяць замуж, а калі „сядзь“ — цэлы год у вёсцы не будзе вяселля. Але часта прабавалі ўздзейнічаць на свой лёс. Праўда, гэта ўжо была не варажба. Здымалі брамкі, выносілі іх на крыжовыя дарогі і падпальвалі, а галавешкі раскідалі на ўсе чатыры стораны, каб так, як ляцяць гэтыя галавешкі, так хутка дзяўчаты выходзілі замуж. З кім, аднак, звяжа дзяўчына сваё жыццё — усё яшчэ заставалася тайнай. На гэтае пытанне мела адказаць наступная, надта ж простая, а можа і крыху дзіцячая варажба. Пасля вячэры дзяўчына выбягала з хаты і ад слупка да слупка пачынала лічыць астраколы — маладзец, удавец... Што прыпадзе на апошняй, за таго і выйдзе. Цікавіла таксама і адкуль ён будзе. Бралі тады чаравік, выходзілі на панадворак і кідалі праз вуліцу. Куды носам паверне, з таго боку і муж будзе. Або іншая варажба. Дзяўчына, якая хацела ведаць, адкуль будзе яе муж, павінна была, вячэраючы, трымаць лыжку так, каб ручка была за рукавом, і ўвесь час маўчаць. Паеўшы, трэба было хуценька бегчы на панадворак і паслухаць, у якім баку забрэша сабака. Адкуль пачуецца брэх, туды і замуж выйдзе.

Апрача адзіночных варожбаў, адбываліся і супольныя. Але яны перш за ўсё абмяжоўваліся тым, якая з варожачых першай выйдзе замуж. Было на гэта некалькі спосабаў. Вось хаця б такі. Кожная з удзельніц сыпала на падлогу купку пшаніцы так, каб паўстаў круг, у сярэдзіну якога пускалі пеўня. Да чыёй купкі падыйдзе першы, тая першая выйдзе замуж. Або іншая. Кожная з прымаючых удзел брала нітку (ніткі павінны быць роўныя), прымацоўвала яе да бэлькі, і ўсе разам падпальвалі. Хуткасць гарэння сімвалізавала парадак выхаду замуж.

Наступнай справай, якая непакоіла дзяўчыну, быў знешні выгляд будучага мужа. І тут ёсць дзве цікавыя варожбы. Прывядзем расказ 86-гадовай жыхаркі Тымянкі Аксеніі Страпчук: „Раз на гагатуху, калі я была яшчэ дзяўчынаю, вырашыла паваражыць. Як усе заснулі, узяла вядро, замок, ключ і пайшла па ваду да студні. Набраўшы вады, узяла замок і замкнула яго ключом над калодцам. Не аглядаючыся, вярнулася дахаты. Каб ніхто не чуў, вымыла твар той вадой і, не выціраючыся, пайшла спаць. Пад падушку палажыла люстэрка, грэбень, ручнік, ключ і замок. Толькі паспела замкнуць вочы, як пачало сніцца. У сне я ўбачыла мужчыну, за якога я пасля выйшла замуж“. Ёсць і другая варажба, але тут толькі адзін супольны элемент — люстэрка. Выконвалася яна наступным спосабам: бралі з сабою два люстэркі, свечку ды ішлі на растайныя дарогі. Люстэркі ўстаўлялі так, каб між імі паўстаў вугал. Калі надыйшла поўнач, запальвалі свечку, ставілі перад люстэркам і гаварылі: „гу-гу-гу, я цябе жду“. Спачатку паказвалася далёкая дарога або лес і толькі там дзесьці далёка-далёка відаць быў чалавек, які ўсё набліжаўся. Быў гэта будучы муж. Але нельга было падпускаць яго блізка да сябе. Як толькі знойдзецца на невялікай адлегласці, трэба хуценька захлопнуць люстэркі. Бо інакш можа быць дрэнна. „Памятаю, — гаворыць адна жыхарка Гародчына, — бабулька мне гэта расказвала, што быў такі выпадак, калі дзяўчына, забыўшыся аб перасцярозе, падпусціла яго бліжэй, не захлопнуўшы люстэрка. То як смальнуў яе па твары, то так і застаўся знак“. Неабавязкова ў люстэрку пакажацца будучы муж. Можа паявіцца і іншае. Бывала і так, што замест чалавека пакажацца труна, якая прадказвае смерць.

Прыведзеныя прыклады варожбаў — далёка не ўсе. Але ўжо гэтая частка гаворыць аб тым, як не давала чалавеку спакою яго будучыня і якімі спосабамі, часта з нашага пункту гледжання наіўнымі, стараліся прыадкрыць хаця ражок той шторы, што закрывала таемнае акно на свой лёс.

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

# ТРЭБА БОЛЬШАГА РАЗМАХУ!

рэктар ГОК-у **Ірына Гайдукевіч** і гаспадар клуба „Руху“ **Валянціна Юрылік.** Пры гэтым неабходна заўважыць, што на дырэктараў крынкаўскаму ГОК-у не шанцуе: на працягу некалькі апошніх год змянілася іх аж тры (адыходзілі, бо траплялася ім вышэй платная работа), адно гаспадар клуба працуе тут нязменна ўжо звыш дзесяці год. І іменна яна патрапіла згуртаваць пры клубе самых актыўных грамадскіх дзеячоў. Узначальвае раду клуба **Л. Кавальская,** яе намеснікам з'яўляецца **А. Зінкевіч,** многа часу адводзяць працы ў клубе **В. Яновіч, Ю. Врублеўскі, Д. Дзядэк, Л. Будроўская** і шэраг іншых. Абавязкі паміж імі падзелены, таму кожнае з мерапрыемстваў праходзіць у ГОК-у цікава, прыемна, спакойна. Варта заўважыць, што тут яшчэ не было выпадку, каб давялося звяртацца за дапамогай у міліцыю для навядзення парадку. І ўсё гэта без асаблівых папярэджванняў, прыпамінанняў, а проста так ужо павялося: у ГОК-у гуляюць усе культурна.

Але далёка не ўсё складваецца ў Крынках, як у казцы. ГОК знаходзіцца ў старой мяшчанскай „камяніцы“, дзе дымяць печы ды са сцен сыплюцца тынкі, не кажучы ўжо пра тое, што яе ўнутраная планіроўка невыгодная для культурна-асветнай дзейнасці. Пасля некалькігадовых захадаў крынкаўскага гміннага ўпраўлення ад колішняга павету ўдалося атрымаць звыш 700 тысяч злотых на рамонт. Але грошы — гэта палавіна справы. Толькі дзякуючы крытыцы ў друку паскорыліся пошукі рамонтнага прадпрыемства. І вось нарэшце прадпрыемства камунальнай гаспадаркі № 2 у Беластоку ўзялося за гэту працу і ўжо звезла патрэбныя матэрыялы. Калі закончыцца рамонт, цяжка сказаць. Таму ГОК, каб не спыняць сваёй дзейнасці, перайшоў у культурна-асветныя памяшканні новай проціпажарнай рамізы. І адразу зноў узяўся за работу. 3 снежня 1976 г. адбылася сустрэча крынкаўскай моладзі з камендантам супрацьпажарнай каманды, на якой было вырашана супольна ўпарадкаваць наваколле рамізы, зрабіць клумбы, а вясной пасадзіць кветкі ды збудаваць „плашчадку“ для танцаў на свежым паветры. 4.XII — прайшлі заняткі маладых гаспадароў, 9.XII — адкрыццё асветнага сезона сярод жаночага актыву гміны. 10.XII — нарада грамадска-гаспадарчага актыву гміны, прысвечаная рашэнням V пленума ЦК ПАРП... І так амаль штодзень ГОК у Крынках выконвае свае важкія культурна-асветныя абавязкі.

Аднак яшчэ не на меру патрэбаў сваёй мясцовасці. У ім няма ні драматычнага калектыву, ні хору, ні танцавальнай групы. З намерам стварыць фальклорны калектыў выступіў гады два таму назад гурток БГКТ, але справа заглохла, бо не знайшоўся ініцыятар, які б заняўся ёю. Былі таксама спробы стварыць і драматычны гурток, але на жаль, усё закончылася толькі добрымі намерамі. Тое самае і з танцавальным калектывам. Словам, у крынкаўскім ГОК-у ўдаюцца бягучыя, невялікія культурна-асветныя мерапрыемствы, якія не вымагаюць працяглых захадаў і сістэматычнай працы, а на шырэйшы размах ды вышэйшы палёт не хапае адвагі.

Шкода!

**Ігнат Снарскі**

БЭГЭКАТОЎСКАЯ СЯМ'Я



*Удзельнікі снежаньскай нарады старшынь гурткоў БГКТ.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА V

Апавяданне „У лазні“ ў адрозненне ад ужо прадстаўленых твораў Гарэцкага мае рысы завершанай і прадуманай літаратурнай канструкцыі. Выступае ў ім характэрная для ўсёй пазнейшай творчасці пісьменніка схільнасць, якая праяўляецца ў разладзе, у канфлікце з вясковым асяроддзем інтэлігента сялянскага паходжання. Праўдападобна, цыкл апавяданняў аб вучнях, якія становяцца інтэлігентамі і перастаюць быць сялянамі, або людзях, якія ўсё жыццё будуць і інтэлігентамі і сялянамі, напісаны Гарэцкім на аўтабіяграфічным матэрыяле. Пісьменнік, як вядома, доўгія тады быў вучнем розных школ; гэта ён перамяшчаўся з сялянскага ў інтэлігенцкі клас. На матэрыяле ўласнага вопыту і на адчуваннях многіх падобных яму выхадцаў сяла, на спецыфічных канфліктах людзей, у якіх нешта сялянскае ўмірала і нешта інтэлігенцкае радзілася, будаваў Гарэцкі свае апавяданні. Героі гэтых апавяданняў далёкія ад сацыяльнага ці нацыянальнага рэнегатызму. Была і ёсць, як вядома, катэгорыя вясковых людзей, якія, папаўшы ў горад, робяць усё, каб забыць аб сваім вясковым паходжанні. Такім людзям лёгка. Найбольшай прыкрасцю для іх з'яўляецца тое, што нехта ім прыпомніць аб іх сацыяльным паходжанні. Гарэцкі, аднак, як правіла, цікавіцца людзьмі, якія, становячыся інтэлігентамі, не хочуць забыць аб сваім сялянскім мінулым. Характэрнае і тое, што гэтыя асобы далёкія ад ідэалізацыі вясковай рэчаіснасці. З аднаго боку вёска іх вабіць сваёй знешняй прыгажосцю, прастатой і шчырасцю жыхароў, харастовм традыцыі, з другога палохае грубасцю адносін, прымітывізмам, хамствам. Словам, дзейнічае на іх, як прорва: вабіць і адпіхае. Адсюль і пачынаецца радавод унутраных канфліктаў герояў Гарэцкага.

Тыпам такой канфліктнай постаці з'яўляецца Клім Шамоўскі, герой апавядання „У лазні“.

Клім — гэта вучань каморніцкай школы. Закончыўшы яе, стане інтэлігентам. Прыехаў ён на зімовыя канікулы ў родную вёску і разам з жыхарамі гэтай вёскі прыйшоў у лазню. Па сутнасці для пісьменніка лазня гэта толькі прадлог. Выкарыстоўвае ён яе як свайго роду тэатр, сцэну, на якой разгортваецца фізічная і духоўная падзея. Апавяданне „У лазні“ гэта канфрантацыя героя з вясковым асяроддзем і з самім сабой.

Лазня, у якую накіроўваецца Клім, характарызуецца выключна прымітыўнай пабудовай і выключным брудам. Парадокс заключаецца ў тым, што ўстанова, якая мае ачышчаць, па сутнасці брудзіць.

Бруд, крыкі, грубыя праклёны, якія сыплюцца з усіх бакоў, нягледзячы на прысутнасць у лазні малых хлопчыкаў — вось атмасфера, якая выклікае ў душы Кліма сумныя і крытычныя рэмінісцэнцыі тады, калі вясковымі жыхарамі трактуецца як нешта нармальнае і прыемнае. Асуджэнне Клімам ідыятызмаў вясковага жыцця, фізічнага і духоўнага бруду, нядбайнасці, абыякавасці да асветы, п'янства не знаходзіць ніякай падтрымкі з боку жыхароў сяла. Ніхто не хоча чытаць практычныя кнігі, якія Клім прывёз у вёску. Просяць Кліма пачытаць нешта рэлігійнае або жаласліва-слязлівае. Усякі крытыцызм Кліма ў адносінах да вясковай рэчаіснасці прымаецца сялянамі як праяў панскасці. Селянін Мікіта, які сядзіць поплеч Кліма ў лазні, заяўляе:

„Запанеў наш каморнік, пышан надта Клім Раманавіч. Духу баіцца... А мне, мужыку, любата...“

Вось такім чынам і родзіцца канфлікт. Клім гэта сын вёскі. Хоча ёй служыць, хоча яе бачыць заможнай і культурнай. Аднак яго мышленне і яго дзеянні разбіваюцца аб мур вясковага кансерватызму. Тут могуць любіць толькі таго інтэлігента, які будзе разам з мужыкамі лаяцца, піць, верыць у забабоны, пахваляць бруд і пошасць.

Клім, вяртаючыся з лазні, думае аб сваёй драме. Парафразуе паэзію. Шукае паэтычнай формулы, у якой маглі б змясціцца яго адносіны да вёскі. Шукае і не знаходзіць.

Вось гэтая парафраза:

*Мой родны кут, краса мая,*
*З табой навек* **расстаўся я**
*Мой родны кут, краса мая,*
*З табой навек* **не ўзгодзе я.**
*Мой родны край, як ты ж мне мілы,*
**Уцяміць** *цябе не маю сілы.*

Апавяданне заканчваецца аптымістычнай рэфлексіяй героя:

„Але ж не адракацца, не быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен...“

Як проста і актуальна таксама і для сённяшняга пакалення беларусаў гучыць гэтая фраза.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ЛЮДЗІ БГКТ

# МАРЫЯ ЛЕАНЧУК



Марыя Леанчук, па прафесіі настаўніца, выконвае дзве нялёгкія, адказныя функцыі — вядзе клуб і бібліятэку ў будынку Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку па вул. Варшаўскай 11. Абедзве гэтыя функцыі выконвае паспяхова. Мае набыты раней у працы з моладдзю вопыт. Кніжкі ў БГКТ-оўскім клубе цяпер на самым відным месцы. Стаяць яны роўнымі радамі на паліцах у прыгожых шафах, за шклом. Ёсць тут каляровы тэлевізар, магнетафон, дастатковая колькасць столікаў і мяккіх крэслаў для наведвальнікаў. Беларускія кніжкі карыстаюцца немалым зацікаўленнем у студэнтаў, вучняў і дарослых. У БГКТ-оўскай бібліятэцы ёсць багаты кнігазбор. Марыя Леанчук у кароткім часе ўпарадкавала ўсе кніжкі, згодна з патрабаваннямі бібліятэчных кіраўнікоў. Дапамагалі ёй Уладзімір Навіцкі, Кастусь Масальскі, Анна Амбражэй і іншыя. Марыя Леанчук выслала таксама шмат кніжак на папаўненне школьных бібліятэк у Гайнаўку, Бельск, Нараўку, Клейнікі, Барысаўку, Нарву, Чыжы, Ласінку, Храбалы, Дубіны, Трасцянку. У мінулым годзе найбольш беларускіх кніжак прачыталі: Мікалай Васілевіч (самы пастаянны чытач), Дамініка Кульгіна, Мікалай Каляда, Ян Піpута, Міхал Пучко, Эва Лукашук. Найбольш ахвотна чытаюць яны творы Я. Купалы, Я. Коласа, І. Шамякіна, П. Броўкі, К. Крапівы, І. Мележа і іншых аўтараў. У „беларускую" бібліятэку ў Беластоку найбольш кніжак (у тым ліку кніжных навінак) накапліваецца пераважна з дзвюх крыніц: з Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў Мінску і з кнігарні замежных выдавецтваў у Беластоку па вул. Кілінскага. На столікі прасторнага клубнага зала Марыя Леанчук выкладае 27 розных газет і часопісаў на чатырох мовах, аднак, гэта зразумела, найбольш на польскай, беларускай і рускай. Словам, ёсць тут даволі вялікая падборка. Яна можа зацікавіць найбольш пераборлівага чытача, задаволіць яго асаблівыя вымаганні.

Марыя Леанчук умела абуджае прагу да чытання сярод наведвальнікаў беларускага клуба, бо яе мэта — далучыць маладую дзяўчыну, юнака або зацікаўленых дарослых да добрай кніжкі. Іменна таму пад яе кіраўніцтвам у клубе адбываюцца аўтарскія сустрэчы, вядуцца цікавыя спрэчкі аб прачытаным, літаратурныя дыскусіі.

Марыя Леанчук — актыўны член вялікай БГКТ-оўскай сям'і. Адыгрывае яна вялікую ролю вядучай шматмаштабную культурна-асветную і выхаваўчую працу. Высакародны гэты абавязак яна выконвае згодна з патрабаваннямі жыцця. Таму яе паважаюць, любяць, цэняць. Асабліва моладзь. За яе непасрэднасць, параду, такт і ўменне. Колькі ж уданых культурных мерапрыемстваў адбылося ў клубе на Варшаўскай, якія рыхтавала яна супольна з моладдзю! Іх не пералічыць. Мо толькі аб некаторых цікавых мерапрыемствах варта ўспомніць. Вось хаця б тыя, якія нядаўна адбыліся. А да такіх належаць: папулярныя „Анджэйкі" (з варожбамі), навагоднія балі для дарослых, навагодняя ёлка для дзяцей, канцэрты музычнага калектыву, спектаклі драмгуртка.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

...у Нараўкаўскай гміне ёсць 37 вёсак, 1774 індывідуальныя гаспадары і сем тысяч жыхароў.

...дзяржаўны фонд зямлі (ПФЗ) у Нараўкаўскай гміне ў мінулым годзе павялічыўся на 618 гектараў. 83 гаспадары перадалі свае гаспадаркі дзяржаве за пенсію.

...у Нараўкаўскай гміне збожжавыя культуры займаюць 63% усіх пасеваў.

## Ці ведаеце, што...

...у Нараўкаўскай гміне сяляне сеюць 3 218 га збожжавых культур і 1 259 га бульбы.

...у Нараўкаўскай гміне гаспадары гадуюць 2 672 каровы, 5 650 свіней і 2 261 авечку. Завялі яны ўжо амаль у 50% каровы галандскай пароды.

...у апошнія гады ў Нараўкаўскай гміне сяляне пабудавалі звыш 150 інвентарскіх будынкаў і шмат якія адрамантавалі. Мае гэта вялікі ўплыў на далейшую інтэнсіфікацыю сельскагаспадарчай вытворчасці.

(ця)

## ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




*З по-пуд лесу ходзіла,*
*цвет-каліну ламала.*
*Цвет-каліну ламала*
*до лічэнька прыкладала.*
*До лічэнька прыкладала*
*І матуленькі пытала:*
*— Чы я буду такая,*
*як каліночька сяя?*
*— Ой, будзеш, донёчку, будзеш,*
*покі ў мане будзеш.*
*Як пойдзеш до свекерэнька,*
*спадзе з цябе ўся красонька.*
*Спадзе з цябе ўся красонька,*
*як од слонэчка росонька.*

Ад Анны Валадкевіч, год 70, вёска Буды ў Белавежскай пушчы, запісаў 12 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# Поспех дуброўскай малачарні

Малочнае прадпрыемства ў Дуброве скупляе малако з 60 злеўняў у навакольных гмінах. Сярод іх ёсць такія, з якіх зборшчыкі адсылаюць па пяць і звыш пяці тысяч літраў малака ў дзень. У апошнія гады дуброўскае прадпрыемства перарабляе да 30 мільёнаў літраў малака. Каб справіцца з такой колькасцю сыравіны, тут уведзены новыя перапрацоўчыя машыны. Фабрыка выпускае на рынак масла, сыр, некалькі гатункаў тварагу, казеін, малочны парашок і іншыя вырабы.

Працуе тут звыш ста асоб, у тым ліку больш жанчын, чым мужчын. Нямала выпускнікоў Малочнага тэхнікума ў Беластоку. Дырэкцыя прадпрыемства належна задбала пра сацыяльна-бытавыя ўмовы работнікаў. За плённую працу дырэкцыя арганізуе для сваіх працаўнікоў экскурсіі і культурныя мерапрыемствы.

Дагэтуль прадукаваныя ў Дуброве масла і сыр мелі два якасныя знакі. У канцы мінулага года дуброўскае масла атрымала знак сусветнай якасці „Q". Гэта вялікае і заслужанае дасягненне рабочага калектыву, які змагаецца за якасць сваіх вырабаў, на што ў сучасны момант звернута асаблівая ўвага на ўсіх прадукцыйных прадпрыемствах.

Варта дадаць, што да канца мінулага года малочнае прадпрыемства ў Дуброве выпусціла на дзяржаўны рынак звыш плана 30 тон сыра.

(ця)

## Этнаграфічнае акенца



*Дом Рыгора Назарука з Ягаднікаў.* *Фота М. Хмялеўскага.*

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### КОЛЬКІ ГАДОЎ АМЕРЫКАНЦАМ?

Амерыканскія і канадскія археолагі вырашылі аб'яднаць намаганні, каб устанавіць, калі першы чалавек з'явіўся ў Паўночнай Амерыцы. Праект коштам 600 тысяч долараў фінансуюць Нацыянальнае геаграфічнае таварыства і Служба нацыянальных паркаў ЗША.

Асноўным месцам пошукаў стане даліна за 120 кіламетраў на поўдзень ад Фэрбенкса (Аляска). У мінулым годзе тут былі знойдзены прылады працы, выраблeныя 11 тысяч гадоў назад, г.зн. у каменным стагоддзі. Аднак у вучоных ёсць падставы меркаваць, што чалавек прыйшоў у гэтыя месцы значна раней. Так, у даліне Юкона археолагі знайшлі косці чалавека, якія праляжалі ў зямлі 20 тысяч гадоў.

Група амерыканскіх вучоных выказала гіпотэзу, згодна з якой засяленне Паўночнай Амерыкі пачалося 70 тысяч гадоў назад. У гэтай тэорыі многа прaціўнікаў, але ў тым, што амерыканцы прыйшлі з азіяцкага кантынента, вучонвія адзіныя. Як мяркуюць, у дагістарычныя часы Азію і Паўночную Амерыку злучаў ледзяны „мост" даўжынёю дзве тысячы кіламетраў, які пазней ператварыўся ў Берынгаў праліў.



# НОВАЕ Ў ПГР „ІГНАТКІ"

ПГР у Ігнатках пад Беластокам у асноўным займаецца вырошчваннем ранняй гародніны, кветак і фруктаў, хаця жывёлагадоўля таксама на ўліку: ПГР вядзе гадоўлю ўбойнага быдла ды мясных бугаёў на экспарт у Юхноўцы. Аднак беластаччане ведаюць перш за ўсё тое, што найлепшую моркву, радыску, цыбулю, буракі, салат і іншую гародніну ды самыя прыгожыя герберы, ружы, цюльпаны, гіяцынты і гваздзіку (усіх каля мільёна кветак) можна купіць у фірменных ігнаткаўскіх крамах і квяцярнях.

Сёння ва ўладаннях ПГР у Ігнатках знаходзіцца каля пяці тысяч гектараў угоддзяў, у будучым будзе яшчэ больш — не менш шасці тысяч гектараў. ПГР мае цяпліцу паверхняй у звыш 2 000 квадратных метраў паверхні. У ёй вырошчвае раннюю агародніну (памідоры, агуркі, салату, радыску і г.д.) ды кветкі. Цяплічная гаспадарка — найбольш даходная. Але ПГР вырошчвае таксама гародніну на адкрытым грунце (моркву, буракі, агуркі, капусту, пятрушку, сальдэрэй, парэй і многія іншыя віды варыва і таксама раннюю бульбу). У мінулым годзе хаця былі не найлепшыя для вырошчвання гародніны кліматычныя ўмовы, ПГР сабраў з 46 гектараў каля 600 тон рознай гародніны. А было і так, што збіраў у два разы больш. Пры доглядзе гародніны і яе ўборцы працуе 110 асоб. У гэтай галіне гаспадаркі ПГР увёў шмат спецыялістычных машын.

У мінулым годзе сабраў 460 тон высакаякасных яблыкаў і 90 тон сліў з саракагектаровага саду. Сліў сабралі, як ніколі дагэтуль. Варта прыпомніць, што дзеля павышэння якасці і сартоў гародніны і фруктаў ПГР супрацоўнічае з навукова-даследчымі інстытутамі.

ПГР у Ігнатках дае гадавую прадукцыю агульнай вартасці ў 14 мільёнаў злотых. Працуе ў ім 450 чалавек. ПГР у Ігнатках — ПГР з вялікімі перспектывамі. У апошнія гады ПГР пасадзіў 200 гектараў саду ў Дабжынёўцы. Да 1980 года будзе ён мець аж 800-гектаровы сад. У бліжэйшыя гады на адкрытым грунце будзе 60 гектараў гародніны, а ўжо да 1980 года — каля двухсот гектараў. Дзеля лепшага забеспячэння беластаччан гароднінай ПГР у Ігнатках павялічыць плошчу цяпліц на 12 тысяч квадратных метраў; будзе ў іх працаваць 370 чалавек.

І яшчэ пару слоў пра жывёлагадоўлю і далейшыя напрамкі ў гэтай галіне. ПГР у Ігнатках гадуе 340 дойных кароў, ад якіх прадае 3 000 літраў малака кожны дзень. Мае 2 500 штук убойнага быдла і 1 500 свіней. ПГР будуе яшчэ абору на 500 свіней і абору на 1 500 бугатаў.

Варта дадаць, што неўзабаве ў ПГР Ігнаткі будзе перададзена ў карыстанне камфартовая гасцініца са сталовай, якая аднаразова будзе выдаваць 250 абедаў. Паселіцца ў ёй 110 асоб. Пабудавалі яе за адзінаццаць мільёнаў злотых. Апрача таго, ПГР у Ігнатках узбагаціцца яшчэ адным фірменным павільёнам. Пабудова яго распачата каля беластоцкага баваўнянага прадпрыемства „Фасты".

**Янка Цялушэцкі**

## SACHA DISTEL



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:** Эля, Алька і Маніка з Пагулянкі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У судзе вялася справа адносна наследства. Адна з наследніц, выязджаючы ў Савецкі Саюз на тры месяцы, выставіла паўнамоцтвы для вядзення справы ў судзе сваёй дачцы. Выступаючы ў судзе, дачка не падала адпаведных доказаў, што маці яе працуе на сельскай гаспадарцы, і суд сцвердзіў, што яна не мае права наследаваць сельскую гаспадарку, пакінутую памершым. Дачка не абжалавала рашэння суда ў прадугледжаным законам тэрміне, і яно ўвайшло ў законную сілу. Ці маці можа патрабаваць аднаўлення судавядзення, а калі не, то ці можна нешта зрабіць у гэтай справе?

АДКАЗ: Няма ніякіх праўных асноў на аднаўленне судовага працэсу. Аднаўлення можна было б патрабаваць, калі б маці была пазбаўлена магчымасці абароны сваіх правоў. Гэткая сітуацыя не паўстала, паколькі яна ведала аб судовым працэсе і перадала дачцы паўнамоцтва, бо кожны можа выставіць паўнамоцтва члену сям'і. Калі паўнамоцнік дрэнна бароніць свайго даверніка — гэта адносіцца і да адваката — ён асабіста адказвае за выкліканую па яго віне страту і можна ад яго патрабаваць кампенсацыі, але на важнасць судовага рашэння гэта не мае ўплыву. Змяніць гэткае рашэнне можа толькі Вярхоўны Суд, калі б міністр справядлівасці або генеральны пракурор пачалі надзвычайную рэвізію. Толькі да іх можна звярнуцца з просьбай аб надзвычайнай рэвізіі.

## Куток практычных ведаў




### ЯК УПЛЫВАЕ ЧАЙ НА АРГАНІЗМ ЧАЛАВЕКА

Адны гавораць, што чай уздзейнічае на арганізм чалавека больш-менш, як кава, што пабуджае арганізм, што паднімае настрой у чалавека. Іншыя ж, наадварот, гавораць, што чай супакойвае іх. Дык хто ж тут мае рацыю?

Рацыю маюць і адны і другія. Бо з гэтым чаем бывае так: у першыя дзве мінуты пасля таго, як чай запараць, чайныя лісткі выдзяляюць узбуджаючы тэін, а толькі пасля супакойваючы (асабліва страўнік) танін. Такім чынам, хто хоча ліквідаваць санлівасць, спраўней працаваць разумова, асвяжыцца пасля працавітага дня, павінен піць чай адразу ж пасля таго, як заварым эсенцыю. Знаўцы гавораць, што чаю нельга дазволіць запарвацца даўжэй як пяць мінут, бо пасля гэтага часу ён становіцца горкі.

У прынцыпе падрыхтоўка добрага чаю не з'яўляецца цяжкай справай, пры ўмове, што будуць прымацца пад увагу падставовыя прынцыпы:

- на кожную шклянку напітку трэба ўзяць поўную чайную лыжачку чайных лісткоў;
- заліваць чай выключна кіпенем;
- калі ў вадзе знаходзіцца занадта многа хлору, трэба пакіпяціць яе некалькі хвілін у чайніку без крышкі;
- калі ў вадзе знаходзіцца замнога жалеза або хлору, а ў нас якраз збіраюцца госці і хацелася б прыняць іх як найсмачнейшым чаем, можна выкарыстаць для падрыхтоўкі эсенцыі мінеральную ваду, зразумела, такую, якая мела б нейтральны смак, бо іншая можа сапсаваць падрыхтоўваемы напітак;
- чайнічак, у якім запарваем чай, павінен быць заўсёды нагрэты;
- лісткі чаю, уложаныя ў спецыяльную лыжачку для заварвання чаю, ніколі не дадуць паўнавартаснай эсенцыі, паколькі яны ў гэтай лыжачцы занадта ўбітыя і не выдзяляюць поўнага арамату;
- чай вельмі лёгка выветрываецца і хутка пераймае чужыя запахі, таму трэба яго перахоўваць у шчыльна замкнутай баначцы, ізаляванай ад вільгаці і кухонных араматаў, нават такіх прыемных, як карыца ці гваздзіка;

А апрача ўсяго, падаем адну цікаўнасць: пакуль англічане пачалі паўсюдна піць чай, яго прадавалі ў аптэцы на рэцэпты.

**Эскулап**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне, здаецца, вельмі дрэнны сон. Сніцца, што выходзіла я замуж. Апранута я была ў белую шлюбную сукенку, а на галаве мела вэлюм. Спала я на тапчане. Са мной сват і дружка. У гэты момант ў хату ўвайшоў хлопец, за якога я выходзіла замуж. Быў ён па-святочнаму апрануты. Прыехаў у нашу хату з вянком. Вянок ён гаварыў вельмі хутка. Калі ён сказаў вянок, то пайшоў у самаход і там мяне чакаў. У другім пакоі была мама мая. Яна апраналася ў чыстае адзенне. Я таксама пачала апранаць чыстыя панчохі. Потым я ехала фурманкай і вельмі плакала. Са мной ехалі два хлопцы. Між іншымі быў сябар хлопца, за якога я выходзіла замуж. Ён мяне пацалаваў, але я адхілялася, мне было сумна.

Галіна з Бельска

Дарагі Астронку! Сніўся мне вельмі дзіўны сон. Быццам іду я па драўляных сходах у шматпавярховы будынак. І на самай гары стаялі дзве бочкі селядцоў. Яны былі вялікія, прыгожыя. Але я не памятаю, ці іх брала. Што гэта абазначае?

Сталая чытачка

**Галіна з Бельска!** Сон ваш не надта добры. Ёсць у вас нейкія цяжкія абавязкі, клопаты і перашкоды (вы ж выходзілі замуж). Чакае вас нейкая непрыемнасць і сварка (панчохі), бо ўлезеце ў нейкую хісткую, няпэўную справу (вы ж ехалі на фурманцы). Пацалунак — таксама нейкі фальш. Адным магу вас пацешыць — гэта тое, што вы плакалі, а слёзы ў сне заўсёды азначаюць радасць...

**Сталая чытачка!** На жаль, і вас чакае нейкая непрыемнасць, а можа, хвароба страўніка пасля нейкага вялікага высілку...

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, яшчэ толькі год часу, як я выйшла замуж, а ўжо маю вялікія клопаты са сваім мужам. Толькі месяц мы хадзілі і падалі заяву на шлюб. Вася быў вельмі мілы, добры, падабаўся не толькі мне, а і бацькам маім і знаёмым. І мне здавалася, што я самая шчаслівая ў свеце, але цяпер астаўся толькі ўспамін аб гэтым шчасці. Муж мой цяпер чуць не штодзень прыходзіць дадому п'яны. Скандаліць, б'ецца. Адно пекла ў нашай хаце. Старалася гаварыць з мужам, калі быў цвярозы, прасіць, каб адумаўся, каб кінуў піць. Ён нават прызнаваў мне рацыю і абяцаў, што больш не будзе. Але абяцанка абяцанкай толькі і асталася. А аднойчы ўбачыла я яго з дзяўчынай. Ішлі абняўшыся і якраз тады быў цвярозы. Значыць, робіць гэта свядома. Тады мы моцна пасварыліся, і я сказала, што падам на развод. Прысягнуў, што больш не паўторыцца. І сапраўды пару тыдняў жылі шчасліва. Я ўжо цяжарная, а Вася ізноў пачаў піць, і нават і цяпер мяне б'е. На развод ужо позна, бо ж у мяне будзе дзіця, ды і што людзі скажуць. Ужо мне не хапае ні сілы, ні розуму, як і што рабіць. Можа ты, Сэрцайка, мне паможаш.

Валя з Бельшчыны

Валя! Сітуацыя сапраўды вельмі цяжкая. Ты ж ужо сваё жыццё пеклам называеш. І падумай, у тое ж пекла прыйдзе і тваё дзіця. А ты ж яго маці, ты ж адказваеш за яго. І калі твой муж цяпер, калі ты цяжарная, не зважае на гэта, дарма спадзявацца, што, калі дзіця народзіцца, ён зменіцца. Ты яшчэ маладая, і не варта марнаваць жыцця сабе і дзіцяці. І мне здаецца, развод у тваёй сітуацыі неабходны.

**Сэрцайка**

### У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



Так зімуюць машыны на базе ў Ляўкове.




Янак супакоіўся толькі тады, калі Берман растлумачыў яму, што яны не фашысты і нічога дрэннага хлопчыку не зробяць. Твар малога пасвятлеў. Ён пачаў штосьці хутка і ўсхвалявана гаварыць, паказваючы рукой на вежу, якая была відаць удалечыні.

— Ты пачакай, хлопча, не гавары так хутка, — сказаў Мірзаян, — растлумач спакойна, што здарылася.

— Касцёл, так, здаецца, хочуць узарваць фрыцы?

— Так, так, пан. Касцёл, Ханка.

— Што азначае па-іхняму ханка, Берман? Ханка — гэта штосьці такое па-польску?

Хлопчык нагнуўся, каменьчыкам пачаў маляваць на зямлі нейкія фігуры. Потым пацягнуў Бермана за руку:

— Вось. Ты — рус? Рус і паляк — браты? Янак, — ён стукнуў сябе ў грудзі, — і Ханка, — ён паказаў на чалавека на зямлі, — браты.

— Ты глядзі, як палітычна адукаваны хлопец трапіўся, — усміхнуўся Мірзаян. — Правільна кажаш: рускі і паляк — браты.

— Усё зразумела: родныя там у яго.

— Вось чаму яны, гады, плошчу ачапілі перад касцёлам! Хочуць спаліць людзей жывымі!

— Ты ідзі дамоў, хлопчык, дамоў, зразумеў? Ідзі дамоў. — Мірзаян ласкава падштурхнуў хлопчыка, паказаўшы на горад.

— Ніц, німа дамоў, мама ніц німа!

— Эх ты, хлопча!.. Ну як жа мы з табой да сваіх папаўзём? Там жа доты нямецкія, разумееш?

— Разумею, разумею! — нечакана ўзрадаваўся Янак. — Гітлер капут!

— Гэта так. Тут спрачацца няма чаго. Вось што, Берман, мы з хлопчыкам вернемся ў горад, а ты паўзі ў батальён, перадай мой загад і вядзі іх вось тут.

Мірзаян разгарнуў карту, захопленую ў лейтэнанта, і правёў алоўкам лінію.

— Гэты дот пастарайцеся ліквідаваць без лішняга шуму. Першым ідзе Габрыэл.

Берман акуратна згарнуў карту і схаваў яе глыбока пад эсэсаўскі мундзір. Яны абняліся.

— Так... Габрыэлу перадай, што, калі ціха ўдасца браць агнявыя пункты, няхай пакідае там людзей — па двое, па трое. Калі немцы папруць з горада, сустрэнуць. Іншага шляху адыходу ў іх няма, з усходняга боку ўдарыць уся наша дывізія.

...Габрыэлам празвалі ў батальёне Васіля Машкіна. Гэты спакойны, з нейкім летуценным выразам вачэй хлопец умеў хутка і бясшумна ўзяць „языка" ў любой, здавалася б, самай цяжкай абстаноўцы. Абучаў сваіх байцоў па ўласнай сістэме. Невядома якім чынам у абозе дывізіі ён раздабыў доўгія канадскія нажы і вучыў сваіх хлопцаў кідаць іх і дзейнічаць імі ў рукапашным баі. На прывалах, дзе спыняўся ўзвод Габрыэла, днём і ноччу чуваць быў лёгкі свіст і звон ляза, што ўпівалася ў ствалы дрэў. Хлопцы Габрыэла лазілі па нейкіх спляценнях канатаў, узбіраліся на дрэвы і скакалі з іх, гадзінамі ляжалі на зямлі, не мяняючы позы. Ва ўзвода былі свае метады трэніроўкі і свой уласны абоз, дзе мелася літаральна ўсё.

Пастаянны баявы поспех, які спадарожнічаў узводу, паставіў яго ў крыху прывілеяванае становішча не толькі ў роце, але і ў батальёне. Неяк само сабой атрымалася, што Машкін атрымаў права адбіраць для сябе людзей і з навабранцаў, і са „старых" у іншых узводах і ротах.

Прозвішчу Габрыэл Машкін быў абавязаны самому сабе. Ён любіў расказваць байцам розныя цікавыя гісторыі. Аднойчы на прывале ён гутарыў са сваім узводам.

— А чаму ў немцаў на спражках „З намі бог" напісана? — спытаў нехта.

Машкін пачаў тлумачыць і назваў Габрыэла — анёла, які браў чалавечую душу, каб пасяліць яе ў рай. Вось на гэтым месцы і застаў Машкіна Мірзаян, які ціха падышоў да разведчыкаў, што размясціліся на прывале.

— Ці не вельмі абстрактная ў вас тэма, таварыш Габрыэл? — спытаў камбат.

Байцы ўскочылі.

— Зусім не, таварыш маёр. Псіхалогія вучыць, што перад выкананнем задання трэба крыху расслабіцца, даць нервам адпачыць.

— Ну-ну, таварыш Габрыэл, дазволь і мне паслухаць.

З таго часу за Машкіным трывала замацавалася прозвішча Габрыэл. Бо ён жа таксама мог ціха „дастаць душу ў немца".

...Цяпер пасылаючы Бермана, Мірзаян спадзяваўся на спрыт і хуткасць байцоў Габрыэла.

Берман паляпаў Янака па плячы і схаваўся за домікам дзядзькі Вацлава.

— Цяпер вядзі, дарагі, да касцёла. Зразумеў? Касцёл? — сказаў Мірзаян.

— Так, так, пан! Касцёл!

**(Працяг будзе)**

